Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 55 гр.

# Жаноцкая Справа

Орган Аб'яднаньня Беларускіх Жанчын імя Алёізіі Пашкевічанкі (Цёткі).

Выходзіць раз у месяц.

Год выданьня I. Вільня, Сакавік 1931 г. № 1



## Да Беларускіх Жанчын.

На ўсенькім сьвеце будзіцца з векавечнага сну жанчына і пачынае заваёўваць для сябе належнае ёй паводле справядлівасьці месца ў жыцьці грамадзянства. Яна здабыла ўжо сабе правы падаваць свой голас на выбарах народных паслоў ў парляманты ўсяго сьвету. Яна можа станавіцца поплеч з мужчынаю да працы ўва ўсіх галінах, якія дагэтуль былі для яе зачынены. Перад жанчынай шырака расчыніліся дзьверы ўсялякіх школаў — ніжэйшых, сярэдніх і вышэйшых, абы толькі яна захацела ўвайсьці ў іх.

Але ў гэтым то й бяда, што ў сваім імкненьні да сьвятла наша беларуская жанчына ня толькі сустракае тыя перашкоды, якія зачыняюць доступ да навукі беларусу-мужчыне, але частагуста й *ня хоча* карыстацца магчымасьцямі, каторыя ёй даюцца самыя ў рукі. Яшчэ й сягоньня на вёсцы маткі ўглядаюцца на навуку дачок, як на дарэмную страту часу: ўсё роўна, — кажуць, — выйдзе замуж, дык па што ёй гэная навуку?

А тым часам якраз у сям'і, дзе галавою ўсяго з'яўляецца жонка, адукацыя жанчыны мае вялізарную вагу. Яна-ж *маці — ўзгадавальніца сваіх дзяцей* — гэнае будучыні нашага народу! Ад таго, што яна ўложыць у душы дзіцячыя ў час малалецтва, часта *залежыць шчасьце ўсенькага іх жыцьця*! Дый ці-ж ня ясна кожнаму, што шчасьце і згода пануе ў сям'і, дзе гаспадыня — кабета разумная, і вечная галачэча там, дзе гаспадыня цёмная, няразьвітая, няздольная вясьці лад у хатнім жыцьці?

З гэтымі перажыткамі адвечнае вясковае цемры трэба змагацца. І найлепшымі барацьбіткамі тут можам быць *толькі мы самыя — жанчыны беларускія*. Жанчына часта мае недаверра да мужчыны, але верыць сваёй сястры — жанчыне: у нас-жа адны справы, адны клопаты, мы ўсе роўна заці-

каўлены тым, каб жыцьцё нашае нейк палепшала, *і мы мусім аб'яднаць нашы сілы, каб здабываць сабе лепшыя варункі жыцьця, рабіць гэтае жыцьцё хоць крыху больш сьветлым, больш радасным.*

Закладзеная ў Вільні наша *першая арганізацыя* і мае на мэце гэткае аб'яднаньне сьведамых і грамадзка, і нацыянальна беларускіх жанчын. Мы будзем клікаць да сьвятла і да арганізацыі ўсіх нашых замучаных, загнаных вясковых сястрыц, а адначасна — паводле нашых сіл і магчымасьці — будзем ў даступнай форме дзяліцца з імі тымі здабыткамі ўсялякае веды, якія выпалі на нашу долю.

Але мы ведаем, што праца наша ня можа замкнуцца тут, на адным месцы — ў Вільні: *вёска мусіць нам* даць памочніц. І мы ведаем, што сярод маладога пакаленьня такія памочніцы ўжо ўзгадаваліся. Іх мы і заклікаем у першы чарод: *адгукнецеся*! Зьвяжэцеся з нашым гуртком, тварэце свае гурткі на вёсках і мястэчках на падставе нашага статуту, зацьверджанага адпаведнымі ўладамі. А кожны гэткі гурток няхай будзе тым сьветачам, што асьвятляціме гаротнае жыцьцё нашае вясковае працаўніцы, прыгнечанае непасільнай працай і нягодамі жыцьця.

Распачынаючы выдаваньне спэцыяльнае жаноцкае часапісі, мы маем на мэце, каб праз яе даваць вестку аб распачатай намі працы, а такжа слаць нашым вясковым сястрыцам — на пачатак — усялякага роду парады і інфармацыі, маючы на мэце даць ім нешта карыснае, як дзеля ўзгадаваньня дзяцей, так і дзеля хатняе гаспадаркі. А далей, калі ўдасца згуртаваць больш сьвядомыя жаноцкія сілы беларускае вёскі, распачнем шырэйшую і больш сыстэматычную культурна-асьветную працу — ці то праз друкаванае ці праз жывое слова, пасылаючы ў вёскі і мястэчкі інструктарскія ды лектарскія сілы.

Да працы, Беларускія Жанчыны!

„Годзе зімовага рабскага сну".

# Жыцьцё і праца Алёізіі Пашкевіч (Цёткі).

Алёізія Пашкевіч, паводле псэўдоніму — Цётка, імя якой, як лёзунг, знаходзіцца ў назове нашага Аб'яднаньня Жанчын, зьяўляецца першай грамадзкай дзеячкай на ніве нашага Адраджэньня, якая скранула з мейсца жаноцкае пытаньне на Беларусі. Цётка не агранічылася толькі да спачуваньня долі сястры-сялянкі ў сваіх поэтыцкіх творах:

Ой, сястронкі, ой вясковы,
Ой, вы, кветкі прызавяты!
Вашы твары, як васковы,
Вашы шчочкі сьлязьмі зьмяты...

Як каліну град страсае,
Як пярун каменьне крышыць,
Так лёс рана вас ламае,
Так жыцьцё красу вам нішчыць.

Сколькі болю ў вачох хмурных,
Сколькі скаргі з губ зьбялелых,
Сколькі срэбра ў косах густых,
Сколькі поту з рук абмлелых...

А за гэта вам дзьве дошкі
І крыж з хвоек ледзьве зьбіты,
І у памяць плачуць дочкі,
Бо-й яны, як вы забіты...

Ой, кабеты, ой вясковы,
Ой, вы, кветкі прызавяты!
Ой, лілейкі вы бяз мовы,
Ой, вы, птушкі бясскрыдлаты!..

Яна, з уласьцівай ёй энэргіяй і нясупыннасьцю, старалася прапагаваць ідэю адраджэньня беларускіх жанчын сярод жанчын іншых нацыяў, старалася сарганізаваць жанчын беларусак на бацькаўшчыне, закладаючы з гэтай мэтай першы жаноцкі гурток у Вільні.

І вось у гэтым кароткім нарысе мы пастараемся пазнаёміць нашых чытачак з асобай Алёізіі Пашкевічанкі, жыцьцё і праца якой — гэта абраз поўнай самаахвярнасьці і адданьня ўсіх сваіх сілаў на служэньне грамадзкай справе і справе жаноцкай.

Нарадзілася Алёізія Пашкевічанка ў 1876 г. у Лідчыне ў незаможнай шляхоцкай сям'і. Да 9-х гадоў яна выхоўваецца ў свае бабкі, кабеты разумнай і добрай, аб якой потым успамінае Цётка з вялікай любасьцю. Даглядае малую Алёізію старая нянька Ягася, якая сваімі апавяданьнямі і казкамі разбуджае фантазію будучай поэткі.

Маючы 16 гадоў, Алёізія Пашкевічанка паступае ў 4-ую клясу гімназіі ў Вільні. Вучыцца з перарывамі, бо здароўе ў яе вельмі

слабое, і яна час-ад-часу мусіць выяжджаць надаўжэй на вёску, каб паправіцца і набраць сілы да далейшай навукі. У часе гэтых прымусовых перарываў у навуцы Алёізія Пашкевічанка не марнуе часу, а працуе, як вучыцелька ў народных пачатковых школах. Такім чынам канчае гімназію аж у 1901 г. і, відаць, зацікаўленая вучыцельскай працай, едзе ў Пецярбург на вучыцельскія курсы. На гэты час прыпадае яе бліжэйшае знаёмства з беларускім адраджэньнем і захопленьне ім. Паводле ўласных слоў Цёткі, на яе нацыянальнае ўсьведамленьне вялікі ўплыў зрабілі творы Багушэвіча (Мацея Бурачка): Смык Беларускі і Дудка Беларуская, а асабліва прадмова да Дудкі). Чытаючы яго творы, Цётка аканчальна зразумела, што той, хто гаворыць па - тутэйшаму — гаворыць па-беларуску, а значыць ён і ёсьць беларус. Ад гэтага моманту ўсе сумляваньні Цёткі, да якой нацыі (народу) сябе залічыць— выясьнены. Яна ведае, хто яна, яна ведае для каго аддаць усе свае сілы — для будзячайся з доўгага, цяжкога сну Бацькаўшчыны, імя якой — Беларусь.



† Алёізія з Пашкевічаў Кейрысовая „Цётка“, памерла 5-га лютага 1916 г.

Цётка пачынае складаць вершы, а адначасна кідаецца ў вір буйнага тагды грамадзкага жыцьця. У 1904 годзе, у годзе рэвалюцыйнага ўздыму ўва ўсей былой Расеі— бачым Алёізію Пашкевічанку пад псэўдонімам „Цётка“ ў Вільні, дзе яна, надзеленая ад прыроды вялікай актыўнасьцю і энэргіяй, працуе сярод работнікаў, будзячы ў іх нацыянальную сьведамасьць, ладзячы мітынгі, закладаючы гурткі; піша многа вершаў з рэвалюцыйным зьместам, з якіх некаторыя, як напр. зборнік „Хрэст на свабоду“—разыходзіліся ў агромным ліку экзэмпляраў паміж работнікамі Вільні і ваколіц. Цётка прымае актыўны ўдзел у арганізацыі Беларускае Сацыялістычнае Грамады. Выступае на мітынгах і ў рабочых арганізацыях, здабываючы сабе ўсюды прыхільнікаў сваім энтузіязмам і шчырасьцю.

На гэты-ж час прыпадаюць і яе першыя спробы парушыць беларускае жаноцкае пытаньне. Цётка бывае на канфэрэнцыях, зьездах расейскіх жанчын, прамаўляе там ад імя жанчын беларусак і такім чынам стараецца прапагаваць ідэю беларускага адраджэньня наагул і жаноцкага ў асаблівасьці. У Вільні Цётка выступае ад беларусак на жаноцкіх мітынгах, стараючыся засеяць зерняты нацыянальнай сьвядомасьці і свае ўласнае нацыянальнае арганізацыі. Цётку, за яе грамадзкую працу, пачынае перасьледаваць паліцыя, і яна змушана выехаць на некалькі гадоў з межаў б. царскае Расеі. Жыве яна то ў Кракаве, то ў Львове, то ў Закапаным, дзе лечыцца ад сухотаў, бо непасільная работа, дый матар'яльныя нястачы моцна падкапалі арганізм і здароў'е Цёткі. На эміграцыі, паміма цяжкога матар'яльнага палажэньня, Цётка не забываецца аб сваіх грамадзкіх абавязках, яна піша шмат літэратурных твораў прозай і вершам, выдае там некаторыя свае кніжкі, пасылае багаты матар'ял у „Нашу Ніву“, першую беларускую газэту.

—

Аб яе настроях на чужыне, і імкненьні на Бацькаўшчыну сьведчыць наступны верш Цёткі:

І душна, і цесна, і сэрца самлела
Мне тут на чужыне, здалёк ад сваіх...
Як птушка, на скрыдлах ляцець бы хацела,
Як хваля па моры, плыла бы да іх!
Зьнялася-б, здаецца, расінкай на хмары,
А хмары-бы ветрам казала я гнаць.
Далёка, далёка, гдзе сьняцца мне чары,
Гдзе боры густыя над Нёмнам шумяць,
Гдзе пацеркай белай Вільля прабягае,
Гдзе Вільля між гораў гняздо сабе ў'е,
Гдзе кожна дарога і крыж мяне знае,
Гдзе ўсё—усё чыста вярнуцца заве!
Там я нарадзілась і вырасла ў волю,
Там першыя словы вучылася казаць...
За тое сягоньня ляцела-б стралою
Там з імі з усімі Год Новы спаткаць!
Ой, мілыя, мілыя, сьнегам пакрыты
Загоны, лясочкі, дарожкі мае!
Эх, як вы ў сэрцы маім не забыты,
Як часта абраз ваш у думцы ўстае!
А вы, бледны твары, панураны ў працы,
І ты, друг мой — смутак з іх сьлёзных вачэй.
Прыміце сягоньня прывет мой гарачы,
Каб жыць нам было ў гэтым годзе лягчэй.

(„З чужыны“).

У 1910 г. Цётка нелягальна варочаецца на Бацькаўшчыну, бо ня можа больш вытрымаць на чужыне. У 1911 годзе выходзіць замуж за Кэйрыса, і зьмененае прозьвішча дазваляе ёй ізноў працаваць на Беларусі лягальна. Цётка пачынае выдаваць з Уласавым часапіс для моладзі — „Лучынка", супрацоўнічае ў гаспадарчай „Сасе".

Каля 1912 г. закладае Цётка ў Вільні першую беларускую жаноцкую арганізацыю пад назовам „Беларускі жаноцкі гурток". З запалам працуе ў гэтай арганізацыі, чытаючы рэфэраты і наагул зьяўляючыся душою Гуртка.

Прыходзіць 1914 год. Пачынаецца сусьветная вайна. Вільню займаюць немцы. Нямецкая ўлада дазваляе нацыянальнасьцям, якія жывуць у нашым краі, закладаць свае школы. І вось Цётка ўсе высілкі прыкладае, каб адчыніць як найбольш беларускіх школаў, наладжвае навет вучыцельскія курсы, дзе сама выкладае некалькі прадметаў.

Да школаў у беларускай мове Цётка прывязывае вялікую вагу, уважаючы родную школу за падставу адраджэньня народу.

Працу яе перарывае перадчасная сьмерць, якая забірае Цётку у 1916 г. з 4-га на 5-ае лютага. Паміраe Цётка ад тыфусу, якім заразілася на вёсцы, паехаўшы на пахаваньне свайго бацькі.

Пасьля сьмерці Цёткі заложаны ёю жаноцкі гурток, відаць, праз нейкі час заміраe, бо пазьней нідзе ня чутно аб ім.

Ад гэтай першай спробы сарганізаваць беларусак жанчын прайшло многа часу. Беларускае грамадзкае жыцьцё ішло праз гэты час рознымі шляхамі. Беларускія жанчыны прымалі ўдзел у розных беларускіх арганізацыях, але толькі ў гэтым годзе змаглі залажыць сваю уласную арганізацыю, якая паставіла сабе за мэту ўсебаковае разьвіцьцё беларускай жанчыны, грамадзкае і нацыянальнае яе ўсьведамленьне. Гэтай арганізацыяй ёсьць Аб'яднаньне беларускіх жанчын імя А. Пашкевічанкі (Цёткі), да якога павінна належаць кожная сьвядомая беларуска і ўсьведамляць несьвядомых.

І калі гэта арганізацыя патрапіць ісьці па сьлядох Цёткі, патрапіць зьдзейсьніць яе ідэалы і лятуценьні, то гэта будзе найпрыгажэйшым і найтрывальшым памятнікам Той, якая ўсё сваё жыцьцё аддала грамадзянству і Бацькаўшчыне. Мы жанчыны павінны паўтарыць словы Цёткі: „Веру, што цяпер блага, але будзе добра"—і з няўпыннай энэргіяй, бяручы прыклад з нашай вялікай папярэдніцы, імкнуцца да зьдзейсьненьня гэтага „добра будзе".

**Марыя Зянюк.**

---

# Урачыстае пасэджаньне.

У бягучым годзе прыпадаюць 15-тыя ўгодкі са дня сьмерці Ал. Пашкевічанкі (Цёткі). Аб'яднаньне Беларускіх Жанчын зладзіла 6. II. 1931 г. урачыстае паседжаньне Ураду А. Б. Ж. і Рэвізыйнае Камісыі, на якім прысутныя, ушанаваўшы памяць „Цёткі" ўставаньнем і заслухаўшы рэфэрат на тэму „Жыцьцё і праца Цёткі", пастанавілі:

1. Наладзіць публічную Акадэмію ў памяць 15-ых угодкаў ад дня сьмерці „Цёткі",
2. Адчыніць імя Цёткі ў гэтым годзе трохмесячныя курсы шыцьця і хатняе гаспадаркі для вясковых дзяўчат.
3. Адчыніць з восені гэтага году інтэрнат імя „Цёткі" для вучаніц беларускіх школаў.

---

*Сястрыцы!*

*Дбайце, каб у вашай вёсцы была беларуская бібліотэка-чытальня. Калі яна ёсьць, хадзеце туды чытаць беларускія кніжкі і клічце з сабою сваіх несьвядомых сяброваk.*

# З жаноцкага сьвету.

## Жанчыны аб'ёднываюць народ.

У Індыі істнуюць дзьве веры (рэлігіі)—гэта будызм і магамэтанства. Дзякуючы гэтаму, аграмадны індускі народ быў разьбіты на дзьве часткі, якія доўга не маглі з сабой пагадзіцца і аслаблялі сілы індусаў у барацьбе з ангельцамі, якія з даўных часоў захапілі Індыю і ня хочуць даць поўнай свабоды індусам.

Нядаўна ў Лёндане, сталіцы Англіі, адбылася нарада паміж прэдстаўнікамі індусаў і ангельскага ўраду. На гэтай нарадзе меў вырашыцца далейшы лёс Індыі і яе адносіны да Англіі.

Вось-жа на гэтай нарадзе ізноў выказалася нязгода між магамэтанамі і будыстамі. Толькі жанчыны, якія былі прысутныя на гэтай нарадзе, стаялі за поўную згоду абедзьвюх вераў аднаго народу.

Першая магамэтанка сказала: „Прайшоў ужо час прамоваў, надышоў час працы. Прашу, вы падумайце аб тым, што наш пасьпех залежыць ад паразуменьня між індусамі абедзьвюх вераў. Калі злучымся—то вытрымаем калі будзем разьдзеленымі — прападзем. Мы браты з крыві і косьці, адзін і той самы народ, нарадзіліся на той самай зямлі, жывем побач з сабой, працуем разам. Заклікаю вас усіх, грамадзяне, ад імя жанчын усяе Індыі да паразуменьня. Як сёстры — спадзяемся, як дочкі — просім, а як маткі—дамагаемся вашай згоды".

Іншая жанчына, індуска п. Суббараян зложыла такую дэклярацыю: „Калі падумаем аб будучыні, то мусім тут дайсьці да згоды! Як жанчына, я укладаю гэтыя першыя думкі дзецям і будучым пакаленьням. Кожны вынік супольнае працы запэўніць будучым пакаленьням лепшую ад нашай долі. Мусім усё зрабіць, каб адкінуць усё тое, што нас дзеліць. Малю вас, памятайце аб вашай адказнасьці".

Індыйская гісторыя запіша гэтыя памятныя словы індыйскіх жанчын-патрыётак, якія дабіваліся еднасьці свайго народу.

Ці ня варта было-б і нам, жанчынам беларускам падумаць аб тым, што сказалі гэтыя індускі і пайшоўшы ў іх сьляды — старацца аб'яднаць наш народ, які сяньня расьцярушаны ня толькі рознай верай, але і рознымі палітычнымі кірункамі і ці не пара і нам працаваць над тым, каб адкінуць усё, што нас дзеліць.

Адкажам: пара і то вялікая пара!

---

У сталіцы Чэхіі ў Празе істнуюць кожнага году двухмесячныя курсы для сялянскіх дзяўчат. На гэтыя курсы зьяжджаюцца дзяўчаты з усяе Чэскае Дзяржавы. Гэтая школа мае на мэце дапоўніць асьвету сялянскіх дзяўчат, каб узгадаваць сьвядомае і сьпелае пакаленьне жанчын.

На гэтых курсах даюць агульную веду пра законы, датычачыя праў жанчыны, гісторыю роднага краю і яго культуры.

Аднак найбольш увагі ўдзяляюць практычнаму боку. Зьвяртаюць асаблівую ўвагу на справу асьветы і ўзгадаваньня фізычнага і духовага дзяцей; ахайнага вядзеньня хаты, на жаноцкія хваробы і правілы здаровага аджыўляньня. Вядуцца там таксама ўсялякія ручныя работы, шыцьцё, кройка і рахункі.

Зарганізаваны курсы як вялікая ўстанова, у якой усе дзяўчаты разам жывуць і харчуюцца за невялікую плату.

Чэхаславацкая дзяржава зразумела вагу асьветы сялянскае жанчыны.

Якая будзе жанчына—маці кожнага Народу, такое будзе і будучае пакаленьне гэтага Народу, бо ўзгадаваньне дзяцей ляжыць у руках мацеры.

---

**З Бразыліі.** Як падае ўкраінская часапіс „Жиноча Доля", у часе нядаўнай рэвалюцыі ў Бразыліі паўстаў жаноцкі батальён „Жоан Песоа". Цяпер ён перафармаваўся ў сталае жаноцкае Т-ва, якое мае на мэце змагацца за палітычныя і сацыяльныя правы жанчыны і наагул працаваць над маральным і фізычным падняцьцем яе.

Гэтае таварыства налічвае ўжо больш, як восемсот сяброўак і арганізуе свае аддзелы ў розных мясцовасьцях краю.

---

— Урад Аб'яднаньня Беларускіх Жанчын імя Алёізіі Пашкевічанкі „Цёткі" і Рэдакцыя „Жаноцкае Справы" выказвае украінскім арганізаваным жанчынам і паважанай Рэдакцыі „Жиноча Доля" за іх сястрыныя пажаданьні пасьпеху ў нашай пачатковай працы свае „шчыра дзякуй!".

---

*Кожная сьвядомая беларуска павінна выпісаць беларускую часапіс „Жаноцкая Справа", чытаць яе сваім сяброўкам і пісаць туды весткі з свайго боку.*

# Парады для матак.

Пад такім загалоўкам будуць зьмяшчацца ў „Жаноцкай Справе“ розныя парады маткам, як карміць і як даглядаць дзіця да году, каб яно расло здаровае, вясёлае і каб было для сваіх бацькоў праўдзівай пацехай.

Час ад нараджэньня дзіцяці да году вельмі важны: дзіця тады слабенькае, нічога не патрапіць тады сказаць аб сваіх патрэбах, і матка мусіць быць добра прыгатаванай, каб патрапіць заспакоіць усе патрэбы дзіцяці, не зашкодзіўшы яму. Звычайна маладыя маткі зпачатку зусім ня ўмеюць абходзіцца з дзяцьмі і добра, калі на падмогу прыдзе бабка, ці якая цётка або суседка, якая ўжо гадавала дзяцей і навучыць, як з ім абходзіцца. Часта-ж такія цёткі або суседкі бываюць зусім несьвядомыя і каб паправіць штось, то яшчэ горш сапсуюць. Напрыклад, калі дзіця плача—радзяць напаіць яго параным макам і кажуць, што тады яно будзе добра і доўга спаць.

Паіць-жа дзіця макам,—гэта тое самае, што даваць яму труцізну. У параным маку ёсьць страшная труцізна, якая называецца опіум. Труцізна гэта адурманівае дзіця, і яно ня сьпіць сапраўдным і здаровым сном — а сном хворым; сон-жа такі вельмі блага уплывае на мазгі і часта дзеці, пояныя макам, на увесь век застаюцпа дуракаватымі.

Калі дзеці хварэюць, або бываюць вельмі неспакойныя, плачуць, дрэнна спяць — то маткі наракаюць на сваю долю, на дзяцей, але не падумаюць, што можа яны самыя вінаваты, што дзіця хворае, або неспакойнае. Калі дзіця родзіцца здаровае, а потым хварэе, то тут найчасьцей вінавата матка, якая ня ўмела сваё дзіцятка як належыць дагледзіць. Вельмі часта, як толькі дзіця заплача, матка зараз дае яму грудзі, думаючы, што дзіця плача таму, што хоча есьці. Часамі-ж дзіця плача якраз таму, што аб'елася і даваць яму тады ізноў грудзі — гэта тое самое, што ўганяць яго ў хваробу.

Аграмаднае значэньне ў здароўі дзіцяці мае чыстата. Скура ў дзіцяці вельмі далікатная, тоненькая і дужа ня любіць бруднай пасьцелькі ў калысцы або брудных і мокрых пялёнак. Скура тады пакрываецца струпамі або атпарывацца і злазіць, асабліва часта ў пахвінках, і дзіня тады крычыць безустанку дзень і ноч, бо такія атпараныя мейсцы страшэнна баляць і доўга ня хочуць гаіцца. Дык вось маткі павінны пільна сачыць за чыстатою ў хаце і асабліва за чыстатою у дзіцячай пасьцельцы — такім чынам матка ухавае дзіця ад многа якіх хваробаў, якія такому маленькаму чалавечку пагражаюць з усіх бакоў.

У нашых вёсках пануе яшчэ адзін дужа шкодны для дзіцяці звычай. Гэта — як дзіця толькі народзіцца — то зараз сходзяцца і старыя і малыя, і свае і чужыя і пачынаюць дзіця аглядаць, ці пекнае, і кожны з аглядаючых мусіць, канечна, дзіця пацалаваць. Тое, што ўсе цікавяцца нованароджаным — можа гэта і добра, але тое, што ўсе яго цалуюць і бяруць яго на рукі, дыхаюць на дзіця — гэта вельмі блага. Цалуючы, людзі пакідаюць на тварыку дзіцяці заўсёды крыху сьліны — а сьліна бывае часта заражана нейкай хваробай і хвароба гэта лёгка можа перанесьціся на дзіця. Дрэнна таксама дыхаць зблізка на дзіця, бо вельмі лёгка можна заразіць дзіця катарам або грыпай, калі асоба, якая на дзіця дыхае, сама хворая на катар, або на грыпу, а гэта, асабліва зімой, часта бывае. Праўда, кажуць, што катар — гэта не хвароба. Гэта так, але толькі для дарослых. Дзіцятка-ж на катар хварэе дужа цяжка. Справа ў тым, што дзіця ня ўмее дыхаць губою, а толькі носам, і калі насок заложыць, то яно проста душыцца, асабліва калі сьсе грудзі. Тады яно злуецца, ня хоча ссаць і чыстая бяда з ім.

Часта, калі хату, у якой ёсьць малое дзіця, адведываюць чужыя людзі і, калі пасьля іх адходу, дзіця пачынае плакаць, то кажуць, што гэта ўрокі, што вось у той кумы ці кума такія благія вочы, што як глянулі дык дзіця і захварэла.

Вось я-б і радзіла матцы не падпушчаць чужых блізка да дзіцяці, не пазваляць браць яго на рукі, ні цалаваць — тады мо' і ўрокаў ня будзе, бо найчасьцей урокі — гэта нейкая хвароба.

Дык вось бачыце, даражэнькія маткі, што, каб як належыць дагледзіць дзіця, трэба шмат стараннасьці і ўмеласьці. Наша часапісь, каб прыйсьці з помачай маткам у гэтай труднай справе, пастанавіла адчыніць сталы аддзел пад назовам: „Парады для матак“, дзе будуць зьмяшчацца ўсялякія парады ў справе дагляду дзяцей, каб і дзіцяці было добра, і каб матка ня мела з ім лішніх клопатаў.

Калі-б што ў нашых парадах было незразумелае, або маткі мелі нейкія запытаньні — дык просім пісаць да нас на адрас: Wilno, Wileńska 8, m. 3, redakcja czas. „Žanoczaja Sprawa“. „Parady dla matak“. Мы ахвотна будзем адказываць на ўсе запытаньні або ў рубрыцы: „Адказы рэдакцыі“, або асобнымі лістамі, калі маткі далучаць паштовую марку на адказ.

У наступным нумары будзе зьмешчана парада пад загалоўкам: як карміць дзіця грудзьмі і як адлучаць яго ад грудзей.

Маткі, чытайце „Парады для матак“!

*Маці.*

## Выхаваньне дзіцяці.

Зьявілася на сьвет Божы маленькае дзіцятка. Цешыцца бацька, а яшчэ больш матка. Хаця шмат працы яе чакае, шмат ночак недаспаных, а можа і шмат непакою ды сьлёз, калі ня зусім памысна яно гадуецца. Ня раз сядзіць матка над калыскай, песьні пяе, а калі дзіцятка засьне, ды сьпешная работа яе ня кліча, задумаецца яна над будучыняй дзіцяткі, а разам і над сваей уласнай.—Што з яго вырасьце? — Ці будзе яно мне пацехай?— Ці дабром адплаціць яно мне за ўсе стараньні ды турботы?

А калі матка гляне далей, па замежы сваей сям'і і сваей хаты, тады яшчэ і іншыя пытаньні паўстануць у яе галаве: якім мае дзіцятка будзе для людзей? ці будуць яго любіць, ці будуць шанаваць у яго пазьнейшыя гады, ці будзе яно карысным грамадзянінам сваей Бацькаўшчыны? і шмат, шмат іншых.—Чым больш матка разьвітая і сьвядомая, тым большыя вымогі будзе ставіць аднosна захаваньня і паступкаў свайго дзіцяці.

Кожная матка інстынктоўна адчувае, што амаль ня ўся адказнасьць за выхаваньне дзіцяці ляжыць на ёй.

Дзіцятка прыходзіць на сьвет з душачкай чыстай, як сьнег, і ў вялікай меры залежыць ад маткі ці яно захавае яе сьветлай і чыстай надалей, ці ня прыстане да яе жыцьцёвы бруд.

Ня знойдзецца хіба матка, якая-б ня рупілася аб выхаваньні свайго дзіцяці, ды ня кожная разумее на чым яно палягае.

Прывязываючы вялікую вагу да добрага выхаваньня дзетак, гэтага маладога пакаленьня, якое ідзе нам на зьмену і ад якога, з часам, будзе залежыць будучыня нашага Краю і Народу, пастараемся ў кароткіх гутарках і прыкладах дапамагчы маткам выпаўніць свой, хаця мілы, але-ж ня лёгкі абавязак.

Будзем супольнымі сіламі і ўзаемнымі парадамі выхоўываць нашых дзетак на добрых, мілых, ветлівых і шляхотных.

Л. Войцікава.

***Маці, дапільнуй, каб твае дзеці умелі чытаць і пісаць па-беларуску!***

# Ці варта умець шыць і вышываць.

Вось, пэўна, знойдуцца такія, якія мне адкажуць: шыцьцё такое таннае, а вышыўкі фабрычныя надта прыгожыя, дык ці варта сядзець і сьляпіцца над імі, лепш пабягу да суседкі, даведаюся пра тое-сёе ды, з рэштаю, шыць і вышываць я і ня ўмею". Я-ж вам на гэта скажу — не і сто разоў не. З гэтаю самаю работаю можна пабегчы да суседкі, а мо' й яна набярэцца ахвоты, а мо' ўжо робіць што-небудзь новае, дык можна навучыцца ад яе, а то разам легчэй прыдумаць які-колечы новы ўзор нейкай вышыўкі. А калі шыць, то лягчэй прымерыць адна на другую, а за адно можна даведацца і навін, якія нас цікавяць. Шыцьцё-ж, хоць яно, здаецца, таннае, але як аддаць і падлічыць, то пабачым, што работа будзе нам каштаваць дзьвёх блюзак і сукенак столькі, колькі-б каштаваў матэр'ял на трэцюю сукенку ці блюзку. Калі аддамо краўчысе, дык яшчэ папачакаем, пакуль на нашу работу прыдзе чарга, ды й трэба схадзіць да прымеркі пару разоў, бо добрая краўчыха бяз прымеркі ня сшые, а жыве яна мо' за верст некалькі, дык, каб да яе дабрацца, трэба страціць ня менш часу, як на шыцьцё самой. Аддаўшы-ж благой краўчысе, якая зробіць хутка і бяз прымеркі, але якая найчасьцей сапсуе, і жанчына ў такой вопратцы выглядае, як пудала, хоць стаў у каноплі. Праўда, ёсьць яшчэ адзін танны спосаб — купіць гатовае, але, гэта таксама — не. Звычайна, гатовую танную вопратку шыюць дрэнныя краўчыхі, ды й яшчэ сьпяшаючы, каб больш штук у дзень сшыць, а як будзе выглядаць у яе работы блюзцы ці сукенцы той, хто яе апране, ёй да гэтага няма дзела. Гэтакія гатовыя танныя рэчы сшыты вельмі нямоцна, бо да іх шыцьця ужываецца нямоцны танны сорт нітак і пры найменшай напружанасьці распорацца па шву. Калі гэта здарыцца на фэсьце ці вечарынцы, дык прыходзіцца зашываць ніткамі, якія пападаюць пад руку, хоць чорную сукенку белымі, а то й зашпіліць аграфкаю, якая паробіць дзіркі і новую рэч хоць вон выкідай, ды й выгляд у такой насьпех сашытай ці зашпіленай вопратцы — брыдкі і неахайны.

А вось калі сшыеце самыя, дык будзе й акуратней і мацней, бо ў дома хоць разоў дзесяць прымерыць можна ды й ніткі дабраць моцныя. Як ведама, цяпер на вёсцы, пры такой таннасьці вясковых прадуктаў, вялікая труднасьць з грашыма, дык калі сам сабе сшыеш, дык вось ужо і ашчаднасьць, бо адзявацца ўсёроўна мусім. Часам у хаце ёсьць старыя паношаныя рэчы, але, вымыўшы, можна з іх што-небудзь перэрабіць, ці з двух адну, ці дакупіўшы ў краме за невялікія грошы рэштку патрэбнай вялічыні, — перэрабіць — дык будзе як новая.

Шмат з вас ужо паканчалі пачатковыя

школы, хоць нажаль не беларускія, дзе пэўна вучылі Вась хоць трохі шыць, а рэшту папрабуйце самыя. Я-ж ад часу-да-часу ў нашай часапісі буду рассказываць вам, як узяцца за гэта і можа супольнымі высілкамі што-небудзь і выйдзе, каб толькі была ахвота з вашага боку. А машына, пэўна, у кожнай вёсцы знойдзецца і за невялікую плату пазволяць пашыць.

А цяпер паглядзімо, ці патрэбна вышыўка і ўсялякія мастацкія работы?

Ведама, як прыгожа і міла для вока, калі каля хаты ёсьць садочак, а ў ім шмат кветак, то хата, хоць благенькая, а выглядае лепш. Як нам прыемна, калі дастанеш новы сорт ёргіняў, гаштаў ці мальваў, а яны зацьвітуць пад вакном рожнымі калёрамі. Панадворак высыпем жоўтым пясочкам, дзеля таго, што жоўты пясочак, выдзяляючыся на цёмным фоне, дадае прыгожасьці і падчырківае, што жыве тут гаспадыня дбалая, якая любіць характво, бо-ж яно так-сама патрэбна ў жыцьці чалавека. Калі чыста і прыгожа, дык і на душы робіцца нейк весялей. Вось, так сама, калі, напрыклад, возьмем кавалак шэрага палатна, сшыем з яго звычайную блюзку,—яна хоць будзе чыстая, але ня прыгожая, як гэта кажуць „ні самой паглядзець ні людзям паказаць“, а калі мы яе вышыем каляровымі ня лінючымі ніткамі, дык, зірнуўшы ў люстэрка, пабачым, што аж папрыгажэем, а хто зірне дык падумае, вось прыгожа, відаць, дзяўчына ня гультай, і коляры прыгожа падабрала, а сама, як жывая кветка між вышытымі. Гэтак сама, як вышыем настольнік, ручнік ці дыванік; а калі засьцелем кавалак нявышытага палатна, то гэта як кажуць „ні розуму, ні сэрцу“ нічога ня скажа. Калі-ж дзяўчына выйдзе замуж, і Бог павялічыць яе сям'ю, дык хоць часу і мала, але ўрваць яго трохі можна, каб гэтакаму маламу карапузіку з бліскучымі вочкамі і як лён валосікамі, сшыць і вышыць кашульку, хоць пару каляровымі сьцежкамі, а зірнуўшы на яго міленькі выгляд, даруеш, што ў ночы спаць ня даў.

Дык вось мы і не павінны вышываньне і іншыя мастацкія работы ставіць на апошні плян.

Беларуская-ж жанчына здольна да ўсялякага мастацтва. Вось што аб ёй гаворыць ведамы наш пісьменьнік Максім Багдановіч у сваім вершы пад загалоўкам

## Слуцкія ткачыхі.

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад пэрсідзкі ткуць яны.
А за сьцяной сьмяецца поле,
Зьяе неба з-за вакна —
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расьцьвіла вясна,
Дзе блішча збожжа ў яснай далі.
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам зьяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі,
Цямнее край зубчаты бору...
І тчэ, забыўшыся, рука
Заміж пэрсідзкага узору
Цьвяток радзімы василька.



Узор з Слуцкіх паясоў

Хоць гэта напамінае нам сумныя часы прыгону, але гэтыя нашыя беларускія „залатыя“ слуцкія паясы, зробленыя рукамі нашых пра-прабабак беларусак, слывуць на ўвесь сьвет.

Дык вось цяпер, калі гэтыя сумныя часы паншчыны адкаціліся ад нас далёка, далёка, мы сваю здольнасьць і свае мастацтва ўжывайма для сябе; няхай нашыя уласныя рукі служаць нам самым. Вось і цяпер, ці-ж нашыя тканіны з нашымі ўзорамі ня вывозяцца заграніцу? ці-ж ня бываюць нагарожаныя мэдалямі на выстаўках? але, нажаль, не як беларускія тканіны, а пад тымі ці іншымі назовамі, як тканіны Віленшчыны, Наваградчыны ці „людовэ“, Кобрынскія „вэлнякі“; аб тых-жа, чыімі рукамі яны зроблены і якому Народу належаць іх узоры, ніхто й ня ведае. А кожны-ж Народ мае свае песьні, свае ўзоры, сваю нацыянальную вопратку і сваю мову, якая павінна быць для яго найпрыгажэйшай і наймілейшай, бо гэта яго скарб, які дастаўся ў спадчыне па яго дзядох-прадзедах і ніхто ня ў сілах гэты скарб ад яго адабраць.

А цяпер, пасьля гэтае гутаркі з вамі, закрануўшы нават старыну, пераходжу ізноў да боку практычнага. У наступным нумары нашае часапісі раскажу вам, як сшыць блюзку, як яе прыбраць самай лёгкаю вышыўкаю, а для платных нашых чытачак будзе

далучана бясплатна выкрайка і ўзор у натуральную вялічыню, а кожная з вас зможа дапасаваць яе да сваёй фігуры.

Калі каго што зацікавіць па гэтаму пытаньню, пішыце ў нашу часапісь, а мы па сіле магчымасьці будзем адказваць вам.

Бывайце!

**Цётка Тоня.**

*Кожная сьвядомая беларуска павінна рупіцца аб тым, каб захавалася наша родная беларуская мова, песьня й вопратка.*

# Гаспадарчыя парады.

## Пару слоў да гаспадынь.

Хачу сказаць пару слоў да гаспадынь, каб заахвоціць іх зьвярнуць больш увагі на сваю хату і на ўсё тое, што ў ёй дзеіцца, а асабліва на ежу і чыстату, бо-ж ад гэтага залежыць здароўе сям'і. Надта часта спатыкаецца, што гаспадыня і нябедная, ёсьць чым закрасіць і што засыпаць у гаршок, але, як зварыць, дык ледзь-ледзь у рот угоніш — гэтак нясмачна і не апэтытна зроблена. Хоць кажуць, што „і сьвінка-гаспадынька, калі мукі скрынка", але гэта няпраўда. Вось бывае часам, што падаюць на стол шмат ежы і ўсё такое дарагое: парасё, індык, заяц і рыбы пару гатункаў, але ўсё зроблена так нясмачна і неахайліва пададзена на стол, што ня толькі есьці няпрыемна, але нават і глядзець. А чыя віна ў гэтым? Ці-ж не гаспадыні?

Вось возьмем звычайны боршч з бурачкоў. Калі ён зварaны добра і ўкінуты ў яго ўсялякія прыправы, якія ў кожнай гаспадыні ёсьць і амаль што нічога не каштуюць, дый запраўлены як сьлед салам і мукою,—а калі яшчэ палажыць якую лыжку—другую сьмятаны, дык так і сьмяюцца яго празрыстыя жыравыя кружочкі на ружовым боршчыку; так і хочацца яго есьці і есьці, а гаспадыні прыходзіцца раз-по-раз даліваць у міску. І ці-ж няпрыемна гэта гаспадыні?

Або возьмем капусту, якая ў гаспадарцы ў зімку служыць вялікаю падмогаю, бо-ж ямо яе сырую, вараную, смажаную з салам ці алеем. Але ў некатарых гаспадынь бывае такая капуста, што, каб есьці яе сырою, ня можа быць і мовы, бо мяккая, як ганучa, пах ад яе страшэнна няпрыемны, а чуваць яго за тры вярсты. А хто тут вінаваты? Ці-ж зноў не гаспадыня: кадушка, напэўна, ня добра вымыта, ад чаго капуста псуючыся робіцца мяккая і няпрыемна пахне, або солі мала, або стаяла задоўга ў цёплым месцы, або кавалак палатна, якім павінна быць прыкрыта капуста зьверху, кружок, камень і бочка кругом унутры заплесьнелыя.

Чыстата патрэбна ўсюды. Калі ў кутках ляжыць леташняе сьмецё, паразвешаны брудныя ганучы, на якія заўсёды можна знайсьці нейкі схоў, ды і хата не праветрываная, то ад гэтае хаты і ад усяго і ўсіх, хто ў ёй знаходзіцца будзе такі пах, як ад бруднае кадушкі з капустаю.

Праўда, што на вёсцы цяжкія ўмовіны для гаспадыні, калі адна хата, ды яшчэ ў ёй малыя дзеці, але ўсё-ж такі пры добрай волі і зразуменьні неабходнасьці чыстаты для здароўя чалавека, можна яе падтрымаць хоць часткова. Ёсьць ведама, калі ўсе ўзрослыя зразумеюць гэта і ўсе разам будуць падтрымліваць чыстату, бо адна гаспадыня ня дасьць рады; але калі будзе вымагаць ад усіх хатніх падтрымліваньня парадку, дык у канцы-канцоў усе зразумеюць і будуць ёй памагаць у гэтым. Трэба толькі ўявіць, што чыстата—гэта залог здароўя.

У наступных нумярох нашае часапісі раскажу, як варыць самыя звычайныя стравы, каб былі смачныя і здаровыя, а таксама розныя ласушкі з мёду, маку, сьмятаны, ягад і г. д.

Хай кожная з Вас, дарагія сястрыцы, піша, калі што Вас цікавіць у гэтым кірунку, а я з Вамі падзялюся ўсім тым, што за сваё доўгае жыцьцё і практыку навучылася. Пішэце ў першую жаноцкую часапісь „Жаноцкая Справа" у аддзел „Гаспадарчыя парады".

**Бабулька.**

## Разводзьце суніцы.

Хачу сказаць пару слоў аб тым, якую вялізарную карысьць прыносяць суніцы ў гаспадарцы, а асабліва, калі хто жыве на хутары, бо на вёсцы трудней будзе ўпільнаваць ад курэй і дзяцей, якія аднолькава ласыя на ягады.

Перш-на-перш суніцы па свайму ўнутранаму складу, як і кожная ягада, зьмяшчаюць у сабе шмат цукру, жалеза і вітамінаў, а, ведама, што ўсё гэта неабходнае для здароўя чалавека. Ісьці ў лес па ягады напатыкаецца часам шмат труднасьцяў, бо на гэта трэба шмат часу, а тут у гаспадарцы яго, як ведама, заўсёды бракуе, ды да таго,

калі панскі лес, то лясьнік адбярэ разам з збанком ці кошыкам. У сябе-ж, у сваім агародзе, бярэш кошык і мінут праз 20 накладзеш кіляў пяць, як бульбы. Ёсьць ведама, трэба засадзіць добры гатунак і добра даглядзець. Спажываць суніцы можна з хлебам, калі захочацца трохі перакусіць, а сухі хлеб ня так гладка йдзе, ды й ня так пажыўны.



Возьмеш штук дзясятак ягад — ужо й смачна і карысна. Або ў нядзельку, калі Бог пашле госьця, так прыемна палажыць у міску ці талерку і пачаставаць, бо ў яго мо няма, а мо іншы гатунак, бо ёсьць шмат гатункаў суніц—адны большыя, другія меншыя, то салодкія, то больш кіслыя, а таксама і па колёру рожняцца: ёсьць чырвоныя, ружовыя і белыя, галоўнае-ж—вялічыня, салодкасьць і трываласьць пры перавозцы. На зіму з суніц можна прыгатаваць шмат рэчаў, але ёсьць ведама, для ўсіх іх патрэбны цукер, каб не псаваліся ўзімку. Грошы на цукер з гаспадаркі трудна ўрваць; тады ўзяць дзесятак кіляў ці больш суніц, прадаць у мястэчку, ці мо і сусед купіць, які не засадзіў яшчэ ці лянуецца—вось і ёсьць на цукер. Прадаць заўсёды можна, калі добры тавар, бо жыхары гарадоў ня маюць зямлі, ды часта заняты іншаю працаю, ня маюць магчымасьці мець свае. Кожнаму-ж хочацца даць дзіцяці ягадку чырвоненькую, салодзенькую, смачную і карысную, ды й сам любіць паласаваць хоць пару разоў на лета, і варэньне зварыць, хоць на выпадак хваробы, што, ня дай Божа, лепш выпіць з гарбатаю здаровым, або памазаўшы на хлеб даць Пранучку ці Марыльцы, а ў пост і самым з'есьці.

Я тут гаварыла аб варэньні, але да варэньня трэба шмат цукру ды і ягадкі мусяць быць цэлыя не пацісканыя. А вось замест варэньня можна варыць сунічную кашку (павідла). Для яе могуць быць ягады ня так сьвежыя і ня так цэлыя, ды і цукру трэба менш, а ўжываецца, як і варэньне. Сок з суніц надта смачны да гарбаты. Смачна таксама каша рыжавая ці прасяная, аблітая сокам. З соку-ж можна зварыць і кісель. Віно таксама смачное з суніц, ды й здаравейшае ад віна, вырабляемага штучна, купленага ў крамах хоць і з прыгожымі наклейкамі. Калі ходзіць аб прыгожасьць вонкавую, то ў кожнай хаце ёсьць дзеці школьнікі, а ў школе вучаць рысаваць, дык мама няхай загадае нарысаваць прыгожую сунічку з зялёнымі лісточкамі і наклеіць на слоік з смачнаю кашкаю ці бутэльку з сокам ці віном. Гэта ў зімку зробіць прыемнае ўражаньне, як угледзіш з чаго зроблены дадзены прадукт і дадасьць ахвоты да веснавое працы каля суніц.

У наступным нумары раскажу, як прыгатаваць зямлю і як пасадзіць і дзе дастаць флянсаў суніц.

Бабулька.

---

## Як выгадаваць расаду памідораў.

Трэба купіць пачак насеньня памідораў за 20 грош. у добрай гародніцкай фірме. У Вільні вул. Завальная склад насеньня і гаспадарчых прыладаў Нагродзкага ці таксама вул. Завальная гародніцтва Вэлера.

Узяць добрае зямлі бяз сьмецьця і каменчыкаў, пасыпаць яе ў міску ці малую скрынку, разраўняць, парабіць трэсачкаю маленькія раўчукі ў адлегласьці двух пальцаў адзін ад другога.

У гэтыя раўкі пакідаць насеньне памідораў ня надта густа, прыцярушыць крышку зямлёю, каб ня відаць было насеньня, паставіць каля вакна і глядзець, каб ня зьмерзла. Кожны дзень трэба паглядзець ці ня сухая зямля і папырскаць вадою, прастаяўшай ноч у хаце, каб ня была надта халодная. Сеяць расаду трэба ў палове сакавіка (марца). Як расьлінкі выпусьцяць трэці лісток, трэба іх перэсадзіць у большую скрынку. Гэта будзе ўжо ў красавіку.

Найлепшыя гатункі: „Lukulus"—вялікія круглыя; „Alice Rozewelt—найранейшыя, вялікія, „Duńskie eksportowe" — чырвоныя, ранейшыя і многаплодныя; „Wileńskie"—вялікія чырвоныя і ранныя.

У наступным нумары расскажу, калі і як перасаджваць памідоры ў большую скрынку і што з імі рабіць далей.

Бабулька.

### Як карміць курэй узімку, каб добра нясьліся.

Раніцаю чуць сьвет даць курам 10 грамаў ячменю і 10 грамаў аўса на штуку. У абед даць такую мешаніну: пацярухі з сена ці мякіны з сэрадэлі, або апалін другога гатунку 20 грамаў на штуку. Запарыць гэта зваранаю гарачаю бульбаю па 50 грамаў на штуку і добра стаўчы; дадаць атрубоў пшанічных па 15 грамаў, вымяшаць добра і даваць курам. Ежа не павінна быць ані гарачаю, ані мёрзлаю. Жытніх атрубоў даваць ня можна, бо яны вызываюць вольнасьць. Увечары даць па 30 грамаў на штуку мешаніны пасьледу з пшаніцы, з льну, ячменю і аўса. Калі хто хоча, каб яго куры добра нясьліся, дык няхай дадае да ежы курам сьвежую кроў або малако ці твораг.

Куры мусяць мець жвір (буйны пясок) ці тоўчаную цэглу, вугаль з дрэва і шлямкрэйду, якая патрэбна на вытварэньне шкарлупы на яйку. Шлям-крэйду можна замяніць старым тынкам, у які ўваходзіць вапна.

Такія рэчы, як вугаль, цэгла, жвір, вапна, куры ўлетку, ходзячы на волі, знаходзяць сабе самыя.

---

*Дзяўчаты!*

*Ці пачалі вы ужо гатавацца даладжаньня беларускага спэктаклю у сваёй вёсцы на Вялікдзень?*

---

# Рознае.

### Некалькі слоў аб мыцьці бялізны.

Хоць кожная гаспадыня мые бялізну па-своему, аднак не зашкодзіць пазнаёміцца з агульнымі правіламі.

I. Калі хочаце, каб мыць бялізну ня было вельмі цяжка, трэба старацца не забруджываць яе занадта: 1) праз доўгае нашэньне, 2) перахоўваньне ў брудным або вільготным мейсцы. Брудную бялізну трэба перахоўваць у кашох, або ў пашытых з палатна мяшкох. Перад тым, як злажыць брудную бялізну ў кош ці ў мяшок, трэба высушыць яе, бо калі кінем вільготную, дык яна хутка зьнішчыцца. Брудную бялізну дрэнна трымаць доўгі час ня мытаю, бо яна жоўкнець. Найлепш мыць бялізну што-тыдзень, або што два тыдні.

II. Да мыцьця найлепш надаецца мяккая вада рачная, або дажджавая, а калі вада цьвердая, з вапнай, дык добра дадаваць бараксу (2 лыжкі на вядро вады) або соды.

III. Важную ролю ў мыцьці бялізны мае гатунак мыла. Найлепш ужываць мыла „Społem“, якое ёсьць у кожным коопэратыве.

### Парадак, у якім належыць мыць бялізну.

Найперш трэба намачыць бялізну на нач (за выняткам каляровай і спэцыяльна забруджанай) у цёплай вадзе з мылам і дадаць некалькі лыжак амоньяку. Назаўтра выкруціць яе з бруду і мыць у балеі, даліваючы гарачай вады. Белую бялізну трэба варыць у катле да 20—30 мінут, пры гэтым у кацёл укідаем жменю бараксу і мыла, тонка парэзанага, ці соды. Ваду трэба добра разьмяшаць, бо калі сода не распусьціцца, дык на бялізьне могуць паўстаць плямы, пасьля гэтага кладзем бялізну. Бялізну вельмі зажоўчаную можна хлёркаваць. 50 грамаў хлёркі разьмяшаць у халоднай вадзе, а потым паставіць на агонь і заварыць. (Хлёрак павінен набраць ружовага коляру), тады яго перэцадзіць праз густое палатно і ўліць у 1 вядро вады. Бялізну апусьціць туды на 15—30 мінут, а пасьля мачыць яе 2 гадзіны ў вадзе, а ўрэшце добра выпаласкаць.

Бялізну, калі яна ўжо выварыцца, трэба яшчэ раз адцерці, а тады ўжо добра выпаласкаць.

Сіньку да падсініваньня трэба ўвязаць у кавалак флянэлі або бархану, каб кавалачкі яе не асаджываліся на бялізьне.

Калі хочаце, каб бялізна была трывалая, трэба крахмаліць, за выняткам хустак да носу, ручнікоў. Крахмал ня трэба варыць. Яго трэба раней разьмяшаць у місцы з сьцюдзёнай вадою, а пасьля заліць варам.

---

### Як вымыць шоўкавую хустку.

Купіць малое пудэлка люксу за 90 грошаў. Узяць чацьвертую частку пудэлка, усыпаць у тры літры гарачае вады і мяшаць датуль, пакуль люкс зусім не разыдзецца ў вадзе. Калі мешаніна вады з люксам будзе толькі цёплая, узяць яе палавіну і мыць у ёй хустку, толькі ня церці, а выжымаць, бо можна парваць. Калі будзем бачыць, што

пена ад люксу на хустцы больш - менш чыстая, выжаць хустку, выліць брудную мешаніну, а наліць другую палавіну і зноў выжымаць. Калі пена на хустцы зусім белая, значыць вымыта чыста, і, выжаўшы, трэба яе выпаласкаць. Робіцца гэта так: наліць чыстай цёплай вады літраў восем, выжатую хустку добра выпаласкаць і выжаць. Гэтак вымытую хустку завярнуць у чыстае белае палатно і асьцярожна выкатаць. Прасаваць трэба па левым боку, ня надта гарачым прасам, каб не спаліць.

Гэтак сама мыюцца сфэтры, шалікі і іншыя шарсьцяныя і шаўковыя рэчы. Толькі для большых рэчаў трэба браць больш люксу і вады.

Трэба памятаць, каб шарсьцяных рэчаў ня класьці ў гарачую мешаніну, ня церці, а выжымаць, бо яны зваляцца і паменшацца. Калі ўсё зрабіць, як вышэй сказана, то вымытыя рэчы не паліняюць і будуць як новыя.

# Хроніка.

— У свой час беларуская прэса ўжо ня раз падавала да ведама грамадзянства аб масавых арыштах навуковых і культурна-асьветных працаўнікаў у Радавай Беларусі. Так арыштаваны: Старшыня Бел. Акадэміі Навук прафэсар У. Ігнатоўскі, паэта Янка Купала; рэктар белар. унівэрсытэту прафэсар Пічэта, дацэнт таго-ж унівэрсытэту І. Краскоўскі, дырэктар Бел. Дзяржаўнага Музэю Ластоўскі, акадэмік Я. Лёсік, акадэмік С. Некрашэвіч і шмат іншых. Галоўным абвінавачаньнем усіх арыштаваных зьяўляецца быццам імкненьне іх да стварэньня Незалежнае Беларускае Рэспублікі. Двох з гэтых арыштаваных, Янка Купала і прафэсар Ігнатоўскі, ў знак пратэсту, налажылі на сябе рукі. Падробнасьці аб сьмерці Ігнатоўскага пакуль што ня ведамы. Янка Купала, як падаюць газэты, прабіў глыбака ў некалькіх месцох сабе жывот нажом, які зрабіў са сталовае лыжкі. Яго зараз-жа адвезлі ў бальніцу. Па славам дахтароў, стан яго здароўя вельмі цяжкі.

У зьвязку з гэтымі апошнімі падзеямі ўсе беларускія арганізацыі і інстытуцыі вынеслі пратэст процiў фізычнага і маральнага тэрору, які сыстэматычна адбываецца над культурнымі і навуковымі працаўнікамі ў Радавай Беларусі, заклікаючы працоўныя масы далучыцца да гэтага пратэсту, клічучы ўвесь культурны сьвет выступіць у абароне культуры многапакутнага Беларускага Народу, жорстка таптанай Маскоўскім нацыяналізмам.

— **Арышт Б. Тарашкевіча.** 6-га лютага г. г. арыштаваны Б. Тарашкевіч, б. старшыня Грамады, які ня так даўно ўцёк з іншымі грамадаўцамі заграніцу.

Па весткам з газэт—Тарашкевіча арыштавалі ў Тчэве, па дарозе з Гданска ў Бэрлін.

Тыя-ж газэты падаюць, што Тарашкевіч ехаў пад фальшывым пашпартам і што пры вобыску ў яго энойдзена шмат living рознага кампрамітуючага матэрыялу.

Ходзяць упорлівыя чуткі, што апошнія арышты сярод беларусаў адбыліся ў сувязі з тым „матэрыялам“, які знайшлі ў Тарашкевіча.

— **Беларускі Студэнскі Саюз у Варшаве.** Беларускія студэнты, якія вучацца ў Варшаўскім Унівэрсытэце, заклалі ў гэтым годзе ў Варшаве Беларускі Студэнскі Саюз.

**„Заранка“.** Аб'яднаньне Беларускіх жанчын аднавіла выдаваньне ілюстраванае дзіцячае часапісі „Заранка“. Першы нумар ужо выйшаў з друку. Падпісная цана з перасылкаю: за 3 месяцы 1 зл. 15 гр., за адзін месяц 45 гр. Адрас Рэдакцыі: Вільня, Віленская вул. № 8—3.

Бацькі! вучыце сваіх дзяцей чытаць і пісаць па беларуску. Ня маючы сваіх родных школаў у беларускай мове, вучыце па-беларуску дзяцей у хаце, а дзеля гэтага выпісвайце дзіцячую часапісь „Заранка“, а таксама беларускі лемантар і дзіцячыя кніжкі.

Цана ў краі: за год 6 зл. 50 гр., за паўгода 3 зл. 25 гр., за квартал 1 зл. 65 гр. Заграніцу ўдвая даражэй.
Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 8-3.
Рэдактарка Н. Шнаркевічава. Выдавецтва: Аб'яднаньня Беларускіх Жанчын імя Ал. Пашкевічанкі (Цёткі).
Друкарня Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. № 22.